№ 93 (4140)

29 лістапада 2016 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

www.nv-online.info

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
***Якуб КОЛАС***

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*



Радзім ГАРЭЦКІ,
акадэмік Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі:

## «Я ўжо выпісаў «Народную Волю» на першую палову 2017 года»

*– Мне "Народная Воля" падабаецца тым, што яна адна з нямногіх газет, дзе можна прачытаць праўду пра наша жыццё, пра нашу сутнасць. Гэта, на мой погляд, самае галоўнае.*

*Вельмі важна, што "Народная Воля" заклікае да сапраўднага нацыянальнага адраджэння, да Беларушчыны.*

*У Беларусі толькі некалькі такіх газет, але на першым месцы для мяне – менавіта "Народная Воля".*

ГАРАЧЫ КАНФЛІКТ

# Расія спрабуе пазбавіць Беларусь статусу транзітнай краіны

З 1 лістапада іншаземцы не могуць патрапіць у Расію праз Беларусь. Расійскі бок запатрабаваў, каб замежнікі, якія ўязджаюць на іх тэрыторыю з Беларусі, перасякалі мяжу праз міжнародныя пункты пропуску.

«Расія ўбачыла праблему там, дзе не бачыла яе 20 гадоў», – так ахарактарызаваў сітуацыю прэс-сакратар МЗС Беларусі **Дзмітрый Міронча.**

Прадстаўнік МЗС назваў адсутнасць мяжы з Расіяй адным з важных дасягненняў саюзных адносін, паколькі яно азначае поўную свабоду перамяшчэння. «*Мы лічым, што гэтая сістэма эфектыўная, разумная і дастатковая з пункту гледжання захавання бяспекі*, – адзначыў Міронча. – *Калі нашы партнёры лічаць, што гэта для іх нязручна, тады трэба вырашаць гэтае пытанне*". І, паводле слоў Мірончыка, "*варыянтаў яго вырашэння некалькі. Не толькі шляхам абсталявання расіянамі пунктаў пропуску, але і шляхам ўзаемнага прызнання віз для мэт транзіту. Дарэчы, гэты механізм, створаны ў рамках СНД, прымяняўся і расійскім, і беларускім бакамі, але на пачатку 2000-х менавіта Масква першай ад яго адмовілася*".

Зараз гэтую тэму абмяркоўваюць спецыялісты на самых розных узроўнях.

Няўжо канфлікт перарасце ў новую "вайну" Расіі з Беларуссю?




СКАЗАНА!

## Аляксандр Лукашэнка:

*– Па-рознаму да гэтага могуць ставіцца ў нас асобныя «таварышы». Але нават яны разумеюць, што ў свеце, напэўна, няма дзяржавы, дзе б так эфектыўна працавала Цэнтральная выбарчая камісія. Мы вывучалі гэтае пытанне, праводзілі сацыялагічныя даследаванні: не проста большасць – пераважная большасць станоўча ацэньвае працу ЦВК і старшыні.*

*(Падчас рабочай сустрэчы А.Лукашэнкі са старшынёй Цэнтрвыбаркама Л.Ярмошынай. 25 лістапада 2016 г.)*

БЛІЦ

*Пасля сустрэчы на мінулым тыдні з Аляксандрам Лукашэнкам Лідзія Ярмошына заявіла, што будзе перапрызначана старшынёй Цэнтральнай выбарчай камісіі.*
*ЦВК яна ўзначальвае ўжо 20 (!) гадоў – з 6 снежня 1996 года.*
*29 снежня Ярмошынай спаўняецца 63 гады.*

# Ці згодны вы з перапрызначэннем Лідзіі Ярмошынай?

*З такім пытаннем "Народная Воля" звярнулася да прадстаўнікоў розных колаў грамадскасці.*

**Аляксандр ГАРЦУЕЎ, галоўны рэжысёр Рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі:**

– Упершыню ад вас пра гэта чую. Я настолькі далёкі ад палітыкі... Прызначыў Ярмошыну, значыць, прызначыў. Мне гэта ўсё роўна. Я займаюся сваёй справай – тэатрам, я цалкам паглыблены ў яго. Калісьці ў маладосці цікавіўся палітыкай, а цяпер – не.

**Алесь МАРА, мастак:**

– Не! Не згодны! Мусіць, адбываецца крызіс у апаратна-кадравых перастаноўках. Такога кадра, як Ярмошына, знайсці ўжо не так проста.

**Міхаіл КАДЫРАЎ, доктар сельскагаспадарчых навук, прафесар:**

– Перапрызначэннем Ярмошынай Лукашэнка ясна, выразна, адкрыта, нахабна сказаў беларускаму грамадству: усё ў Беларусі застанецца па-ранейшаму. У выбарчай сістэме, у палітычным жыцці (калі тое, што зараз маецца ў нас, можна назваць палітычным жыццём), ва ўмовах падбору кадраў... Гэта значыць, што ранейшы аўтарытарна-дыктатарскі курс, які прывёў краіну ў балота дэградацыі, з якога не відаць выйсця, будзе працягвацца. Гэтым прызначэннем ён таксама дае зразумець, што альбо ён яшчэ надоўга, альбо рыхтуецца ў бліжэйшы час на нейкія дзеянні, якія тычацца асабіста яго, і для гэтага неабходна выбарчая сістэма пад назвай «Ярмошына». Другое больш верагодна. Здзіўляе поўная абыякавасць да рэакцыі на перапрызначэнне Ярмошынай заходніх структур, заходняй палітычнай грамадскай думкі, ад якой, здавалася б, цяпер для Беларусі нешта значнае залежыць. Я ўжо не кажу пра абыякавасць да рэакцыі беларускага «народца». Прозвішча «Ярмошына» ўвойдзе ў гісторыю Беларусі і стане намінальным.

**Аляксандр ЗІНКЕВІЧ, дырэктар Палаца мастацтва:**

– Я вельмі далёкі ад гэтага працэсу і не маю з гэтай нагоды наогул ніякага меркавання.

**Павел ДАНЕЙКА, эканаміст:**

– Што я магу сказаць?.. А што, у мяне нехта пытаўся? І якая розніца – прызначыў-перапрызначыў...

**Аляксандр ГРЫНКІН, фермер:**

– Старшыня ЦВК – гэта ж як зіц-старшыня. Чалавек на гэтай пасадзе нічога не вырашае! Бюлетэні надрукаваць, бюлетэні сабраць. Мне асабіста, напрыклад, Лідзія Ярмошына не падабаецца. Але, з іншага боку, навошта марнаваць энергію, шукаць новую персону на гэтую пасаду, калі яна, вобразна кажучы, пустое месца?

**Аляксандр КНЫРОВІЧ, бізнесмен:**

– Абсалютна не ў Ярмошынай справа. Яна сама заўсёды казала, што лічыць сябе толькі вінцікам у вялікай бюракратычнай машыне дзяржавы. На сутнасць справы прызначэнне яе ў каторы раз старшынёй ЦВК не ўплывае. Тым больш не мае значэння, колькі гадоў Лідзіі Міхайлаўне Ярмошынай. Не зменіць справу тое, калі на гэтае месца прыйдзе іншая, напрыклад 23-гадовая, «Ярмошына».

**Руслан ВАШКЕВІЧ, мастак:**

– Мяне як мастака эстэтычна абражае перш за ўсё вонкавы бок справы. Як кажуць прафесійныя матэматыкі: "Калі формула выглядае прыгожа, значыць, яна верная". Тут і лічбы крывыя, і выглядае гэта ўсё жудасна.

**Апытвала Алена МАЛОЧКА.**

КРОПКІ НАД І

## «Маштабнага даследавання менавіта па Цэнтрвыбаркаме не праводзілася...»

"Народная Воля" вырашыла ўдакладніць: хто і калі праводзіў сацыялагічныя даследаванні, вынікамі якіх стала такая высокая адзнака дзейнасці ЦВК і спадарыні Ярмошынай? Нідзе раней у СМІ падобная інфармацыя не з'яўлялася.

Сёння ў Беларусі існуюць тры буйныя дзяржаўныя сацыялагічныя ўстановы – Інстытут сацыялогіі Нацыянальнай акадэміі навук, Цэнтр сацыялагічных і сацыяльна-палітычных даследаванняў БДУ і Інфармацыйна-аналітычны цэнтр пры Адміністрацыі прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

...Тэлефаную ў Цэнтр сацыялагічных і сацыяльна-палітычных даследаванняў БДУ. Дырэктар установы, доктар сацыялагічных навук, прафесар **Давід Ротман** кажа, што "*на правядзенне такіх даследаванняў цэнтр заказаў не атрымліваў*".

– *Сапраўды, мы праводзім вельмі шмат даследаванняў, якія звязаны з вывучэннем грамадска-палітычнай сітуацыі ў Беларусі*, – выказаў сваё меркаванне прафесар Ротман. – *Гэта і штогадовы маніторынг па грамадска-палітычнай сітуацыі, і даследаванні ў перыяд электаральных кампаній, якія мы робім, пачынаючы з 1989 года. Але з нагоды працы Цэнтральнай выбарчай камісіі даследаванняў ніколі не праводзілі. Хутчэй за ўсё, дадзеныя даследаванні праводзіў Інфармацыйна-аналітычны цэнтр пры Адміністрацыі прэзідэнта.*

Дырэктар Інстытута сацыялогіі НАН Беларусі, доктар сацыялагічных навук, прафесар **Ігар Катляроў** сцвярджае, што яго падначаленыя таксама адмысловых даследаванняў наконт працы ЦВК альбо канкрэтных устаноў і іх кіраўнікоў не рабілі.

– *Сёлета пасля парламенцкай кампаніі мы праводзілі даследаванне, адно з пытанняў якога гучала так: «Як вы лічыце, на якім узроўні прайшлі выбары?»*

**– А раней падобныя пытанні вы ўключалі ў свае даследаванні?**

– *Не. Толькі цяпер мы рабілі такое апытанне. Гэта не быў чыйсьці заказ, гэта наш сацыяльна-палітычны маніторынг, вывучэнне сацыяльна-палітычнай сітуацыі ў краіне.*

Ну і нарэшце тэлефаную ў Інфармацыйна-аналітычны цэнтр пры Адміністрацыі прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. (Вядома, што асноўны заказчык сацыялагічных даследаванняў цэнтра – ідэалагічнае ўпраўленне Адміністрацыі прэзідэнта.) Чую: "*Мы – тэхнічныя выканаўцы і вынікі сацдаследаванняў не каментуем. Усе дадзеныя нашых сацапытанняў накіроўваюцца ва ўпраўленне, і ідэолагі самі вырашаюць, як імі распараджацца: даваць інфармацыю ў СМІ ці не даваць*".

Што тычыцца даследаванняў наконт працы Цэнтрвыбаркама і яго старшыні Лідзіі Ярмошынай, то, "*зразумела, асобнага маштабнага даследавання менавіта па Цэнтрвыбаркаме па ўсёй краіне не праводзілася*", кажуць у ІАЦ. Супрацоўнікі цэнтра так тлумачаць цытату А.Лукашэнкі: "*У рамках іншых сацдаследаванняў, якіх праводзіцца процьма, ёсць шмат пытанняў пра выбары, пытанняў якіх заўгодна, але паколькі падрыхтоўкай і арганізацыяй выбараў займаецца Цэнтрвыбаркам, то ўсе адказы рэспандэнтаў, якія тычыліся таго, што выбары прайшлі на высокім узроўні, аўтаматычна расцэньваюцца, што гэта заслуга ЦВК. І, зразумела, пра вынікі гэтых даследаванняў інфармацыя падаецца кіраўніку краіны*".

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

ПИСЬМА С КРЕЩАТИКА



Александр ФЕДУТА

# Who is Mr. Yanukovich? And who is Mr. Lukashenko?

25 ноября в ходе скайп-конференции беглый президент Украины Виктор Янукович намеревался дать показания украинским следователям о том, что же, по его мнению, произошло на Майдане в ноябре 2013 года, а затем и в феврале 2014-го. Показания даны не были, зато в воздухе повис вопрос о статусе господина Януковича.

Официально Виктор Янукович не является главой украинского государства с того самого момента, когда покинул Киев и сбежал через Севастополь в ночь с 22 на 23 февраля 2014 года. Именно тогда должность президента Украины была объявлена вакантной в связи с демонстративной неготовностью командующего ее Вооруженными силами исполнять свои обязанности. Исполнение их было возложено на нового спикера Верховной Рады Александра Турчинова, Рада назначила выборы, на которых уже в первом туре и победил Петр Порошенко.

Виктор Янукович признать результаты тех выборов до сих пор отказывался. Уже Владимир Путин неоднократно по телефону, во сне и наяву беседовал с Петром Порошенко как с легитимным главой Украины; уже президенты США – как уходящий, так и приходящий – именно в таковом статусе с Петром Алексеевичем общались. Канцлер Германии, президент Франции, Генеральный секретарь Совета Европы и председатели всех мыслимых и немыслимых парламентских ассамблей не видели повода сомневаться в полномочиях пятого президента Украины. Но вот четвертый президент этой страны их отрицал категорически.

Это понятно. Согласно украинской Конституции, президент Украины обладает полной неприкосновенностью. Такой, какой не обладают все остальные граждане. И тот момент, когда Янукович начнет отрицать свой президентский статус, автоматически превращает Виктора Федоровича даже в его собственных глазах в фигуру, мягко говоря, подлежащую уголовному преследованию. А этого, как вы понимаете, никому не хочется.

Тем более – Януковичу, прекрасно понимающему, что ему есть за что отвечать перед судом.

25 ноября ему перед судом и пришлось отвечать. В странном пока статусе свидетеля.

О странности статуса я не зря упомянул. По целому ряду дел – в частности, по делу о расстреле участников акции протеста на Майдане, многочисленных делах о коррупции и т.д. – у Януковича есть шанс пройти в качестве обвиняемого. Во всяком случае понятно: если будет доказано, что боевое оружие, стрелявшее пулями на поражение, было роздано спецназовцам из отряда «Беркут» по прямому указанию президента, он становится вровень с ними именно как обвиняемый, отдавший преступный приказ. Но это еще нужно доказать. И суд вправе изменить статус гражданина Украины Януковича В.Ф. непосредственно после его же показаний и показаний «беркутовцев», по делу которых экс-президент и должен был свидетельствовать из Ростова по интернету.

Свидетельствование, однако, не состоялось. Несколько десятков активистов правых организаций и «Автомайдана» блокировали выезд автозака с заключенными «беркутовцами» из Лукьяновского следственного изолятора. По закону выслушивать свидетеля в отсутствие подсудимых невозможно – это ограничивает их право на защиту. А современная Украина делает все, чтобы ее нельзя было обвинить в нарушении прав человека. Посему на этот раз Виктору Федоровичу не довелось использовать свой статус свидетеля, чтобы еще раз заявить: я ни в чем не виноват! Но, с другой стороны, и сторона обвинения лишилась возможности потребовать от суда изменить статус гражданина Януковича со статуса свидетеля на статус обвиняемого или подозреваемого. В любом случае сенсация не состоялась: экс-президенту не пришлось давать показания по скайпу.

Но даже если бы она и состоялась, эта сенсация, мне не удалось бы ее лицезреть даже по скайпу – не только в телевизоре. И вот почему.

Как раз в это время группа белорусских журналистов, в том числе и корреспондент «Народной Воли» в Киеве Александр Федута, находилась в Верховной Раде Украины, где встречалась с председателем Комитета по международным делам Верховной Рады Ганной Гопко. Госпожа Гопко, молодая, обаятельная и открытая, произвела на нас впечатление не только всеми этими качествами, завидно отличающими ее – особенно открытость! – от большинства ее белорусских коллег-парламентариев. То, что она сказала, действительно граничит с сенсацией.

Оценивая нынешнее состояние белорусско-украинских отношений, Ганна Миколаевна особо остановилась на ситуации, связанной с голосованием в 3-м комитете ООН по внесенному Украиной проекту резолюции о соблюдении прав человека в Крыму. Как выяснилось, позиция представителя Беларуси, проголосовавшего против данного проекта, неприятно поразила украинское руководство. И вот почему: вопрос о поддержке проекта резолюции обсуждался на самом высоком уровне, и украинская сторона получила подтверждение того, что Беларусь проект поддержит. А тут – облом.

Это не новость. И украинские блогеры и пользователи социальных сетей всласть поворчали по этому поводу. И Беларусь успела объясниться: дескать, права человека она считает внутренним делом любого государства, а потому против принятия таких резолюций в принципе (как тут не вспомнить кошку, знающую, чье сало она съела). Но вот дальше сенсация и начинается.

Из объяснений белорусской стороны следует, что вопрос о соблюдении прав человека в оккупированном Крыму она считает … внутренним делом Российской Федерации. А стало быть, никакой речи о нейтралитете Беларуси просто не может идти – по крайней мере, для Украины. Воздержись Беларусь при голосовании – это можно было бы трактовать как нейтралитет. А сейчас официальный Минск открыто занял сторону государства-оккупанта.

Если кто-то не понял, о чем речь, объясняю, хотя и не столь красноречиво, как это делают белорусский МИД и его эмиссары. Киев согласился на переговоры в «нормандском формате» в Минске не потому, что до Минска лететь ближе. А потому, что Беларусь – формально нейтральное (в украинско-российском конфликте) государство, которое готово предоставить площадку для встреч представителей официального Киева с представителями непризнанных ДНР и ЛНР. И, по словам госпожи Гопко (не последнего человека в вопросах международной политики Украины), голосование представителя Беларуси, вставшего на сторону оккупанта, дает повод поставить этот самый формальный нейтралитет под сомнение. Впереди, утверждает председатель Комитета по международным делам Верховной Рады, голосование по этой же резолюции, которое состоится на заседании Генеральной Ассамблеи ООН 15 декабря. И после этого Киев будет делать выводы о нейтралитете официального Минска.

Поняли?

Александр Лукашенко рискует потерять статус миротворца. Минск может быть успешно заменен, например, на Астану, Баку или даже Кишинев.

Я специально поинтересовался у госпожи Гопко, можно ли привести ее точку зрения в прессе, и получил от нее положительный ответ.

Мне кажется, для Беларуси это гораздо большая сенсация, нежели любые показания беглого президента Украины. В любом случае его статус «экс-» никем, кроме него самого, сомнению не подвергается. А вот интрига с ответом на вопрос «who is Mr. Lukashenko?» сохранится по крайней мере до 15 декабря, потому что Александр Григорьевич оказался в крайне неприятной для себя ситуации. Проголосовать за резолюцию по Крыму – окончательно разругаться с Путиным. Проголосовать против нее – утратить статус миротворца в глазах всех тех государств, которые считают Крым оккупированной территорией. В общем, как говорится в подобных случаях, «промолчи – авось, сойдешь за умного». Но об этом белорусским дипломатам, как мне кажется, нужно было думать несколько раньше.

